# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЦАНА 15 КАП.



N 18



У ЛЯГЕРЫ: ПРЫЕХАЛІ НАВЕДАЦЬ СЫНА

ФОТО Л. МАЗЗЛЕВА

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ на 1931 г.

## НА ШТОМЕСЯЧНЫ
### ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
### І ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

# МАЛАДНЯК

**8-мы ГОД ВЫДАНЬНЯ**

**ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ АСОЦЫЯЦЫІ ПРОЛЕТАРСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ**

| | |
|---|---|
| **„МАЛАДНЯК“** | зьяўляецца баявым часопісам у змаганьні за пролетарскую літаратуру |
| **„МАЛАДНЯК“** | на сваіх старонках будзе і надалей рашуча праводзіць цьвёрдую пролетарскую лінію ў галіне літаратуры, рашуча змагацца са ўсялякімі хістаньнямі і ўхіламі, са шкоднымі тэндэнцыямі і варожымі праявамі ў літаратуры |
| **„МАЛАДНЯК“** | будзе даваць аддзел сатыры і гумару (шаржы, пародыі, літаратурныя гумарэскі і фэльетоны) |
| **„МАЛАДНЯК“** | у 1930 годзе дасьць сваім падпісчыкам лепшыя ўзоры пролетарскай літаратуры (раманы, аповесьці, поэмы, вершы, драм. творы) |
| **„МАЛАДНЯК“** | у 1930 годзе зьмяшчае шэраг артыкулаў па пытаньнях пролетарскага мастацтва і творчых дасягненьнях беларускай пролетарскай літаратуры, а таксама літаратуры братніх рэспублік |
| **У МАЛАДНЯКУ** | будзе давацца багаты аддзел бібліографіі і хронікі культурнага жыцьця як БССР, гэтак і іншых рэспублік |

**У часопісу бяруць удзел лепшыя сілы пролетарскай літаратуры і марксыцкай крытыкі**

Кожная партыйная і комсамольская ячэйка, клюбная бібліотэка, чырвоны куток фабрыкі і заводу, нардом, хата-чытальня, школа, літгурток—ПАВІННЫ ВЫПІСАЦЬ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“ ▪ Рабочы, селянін, настаўнік, студэнт, кожны, хто цікавіцца пытаньнямі літаратуры і мастацтва, ВЫПІСВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“ ▪ У 1930 годзе ЧАСОПІС БУДЗЕ ВЫХОДЗІЦЬ РЭГУЛЯРНА КОЖНЫ МЕСЯЦ на 10 АРКУШАХ.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| На год | | На 6 м-цаў | | На 3 м-ца | | На 1 м-ц | | ЦАНА Ў РОЗЬНІЧНЫМ ПРОДАЖУ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | — | 1 | 60 | — | 90 | — | 30 | 40 к. |

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, агенцтвах, ва ўсіх кнігарнях Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва, усімі аддзяленьнямі „Правда“ і спэцыяльнымі ўпаўнаважанымі Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“.

ПАДПІСКУ МОЖНА ПАСЫЛАЦЬ у Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“ па адрасу: гор. Менск, Комсамольская, 25, або непасрэдна па адрасу рэдакцыі: г. Менск, Савецкая, 68, Дом Пісьменьніка, рэдакцыі „Маладняк“—тэл. 8-7[illegible].

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

25 ВЕРАСЬНЯ 1930

N 18

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 68.
Тэл. 7-41



ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ НАПАГАТОВЕ

Фото Эл. Семянякі.



# Пра дзеда Альпіна

Апавяданьне М. ЗАРЭЦКАГА.

ПАКУЛЬ старшыня сельсавету чытаў пастанову, дзед Альпін звонку трымаўся спакойна і важна. Яго буйны мясёны твар быў скамянеўшы, у строгай пахмурасьці, быццам стаяў ён пры нейкай урачыстай адправе. І толькі тады, як, скончыўшы чытаньне, зірнуў на яго старшыня шырока і ўсьмешліва (ну, што скажаш на гэта, мілы дзядок?), твар у яго сударгава смаргануўся, часта заміргалі павекі і ўсёй сваёй карабатай фігурай памкнуўся ён да гэтага нясьцерпнага злосьніка. Адылі стрэў у старшынёвых вачох вельмі выразны агоньчык і ўраз суняўся.

(У пастанове было: за злачынны продаж жывёлы, за сыстэматычную агітацыю супроць колгаснага будаўніцтва, за няправільны, ашуканскі разьлік з парабкамі ды іншае—адабраць у кулака такога-та ўвесь жывы і мёртвы інвэнтар, а таксама спагнаць з яго трыста рублёў грашыма).

Дзед Альпін, згубіўшы сваю станавітасьць, беспарадна азірнуўся навокал (паразыйшліся ўсе чыста, адзін ён ды ўнук Амелька ў двары) і зачаў бажыцца, зачаў хрысьціцца

— Як сьвят бог... Каб я так дыхаў... Бярыце ўсё, бярыце коні, каровы... Вашая ўлада, вашая сіла... Грошай няма... ані капеечкі... Як сьвят бог...

І хапліва, разгублена махаў рукою ў той бок, дзе ў змрочным брудным кутку вісела чарада закапцелых багоў. А калі старшыня сьледам за ягонымі рухамі перавёў вочы і пільна углядзеўся ў боскі прытулак, дзедава рука дзерганулася і спынілася на поўдарозе. З падазронай пасьпешнасьцю дзед пачаў торкаць рукамі ў хатнія рэчы.

— Нічога няма, таварышы родныя... нічым-чагенечка... Гэта-ж—сьмецьце... гэта-ж—ламаччо... Каб што прадаць, дык—анічогачка...

Старшыня сельсавету вынес з хаты таемную хітраватую ўсьмешку на твары—дзед заўважыў яе і закалаціўся, як асінавы ліст. Ці толькі сьціхлі ў аддаленнасьці крокі ліхіх нечаканых гасьцей, ён зашчапіў на крук дзьверы, з трывожнай апаскай зірнуў у вакно і сьцеражліва, на цыпках падышоў да абразоў. Куца перахрысьціўся і трапятлівымі рукамі дастаў з заплечча у сьвятога Міколы шэры пыляны скрутак.

Пяцехгадовы Амелька ўпяршыню бачыў такога дзіўнага дзеда. Зашыўшыся ў глухі куточак, ён палахліва сачыў за дзедавымі рухамі і страшэнна дзівіўся, чаму так калоціцца дзед, калі ў хаце добра напалена і горача, як у лазьні. А калі ўбачыў у дзеда ў руках шэры пыляны скрутак, ён і сам затросься ад нясьцерпнай дзіцячай цікавасьці і прагавіта ўпіўся вочкамі ў таемны прадмет. Ледзьве дачакаўшыся, пакуль выйшаў дзед з хаты і пакуль ляпнулі за ім надворныя дзьверы, ён спрытным мышаняткам цмыгнуў у сенцы і прыліп да шчэлкі, праз якую відаць было, што дзеецца на двары.

Ён бачыў, як з шалёнай пасьпешнасьцю кідаўся дзед па двары, нікаў па ўсіх кутках, па ўсіх закавулках, і ўсё прыціскаў да грудзей шэры таемны скрутак. Нарэшце ён спыніўся ля клеці, прыгнуўся долу і колькі хвілін поркаўся ў падмурку. Калі-ж устаў і, боязка азірнуўшыся, павольным крокам падаўся да хатніх дзьвярэй, рукі ў яго былі ўжо пустыя і млява, як пасьля натужнай работы, цяляпаліся па баках.

Амелька страпянуўся, маланкай скочыў у хату і зноў зашыўся ў свой глухі куточак.

* * *

Дзед Альпін увайшоў у хату спакойны і важны. Пад сівымі вусамі ў яго тулялася хітрая ўсьмешка, а праз густыя навіслыя бровы прасяваліся агоньчыкі едкай зларадасьці.

Ён падыйшоў да вакна і стаў перад ім нярухома—утаропіў у сьнегавую бялосьць застылы погляд. У вачох тады згасьлі агоньчыкі, сталі вочы цяжкія і плыткія (мабыць, успамінаў дзед даўнейшае, жалкаваў аб багацьці, раскошы, аб раскошы, аб моцным багатырскім жыцьці). У гэты момант смаргануў носам з свайго кутка Амелька, і дзед здрыгануўся ад гэтага гуку, як ад раптоўнага ўдару. Але ўбачыў унука (быў забыўся зусім, што той у хаце), паклікаў яго да сябе і стаў лашчыць малога, рыпець старым караватым голасам:

— Чуў, Амелька, што злыдні казалі... Забяруць усё-чыста.. Жылі, набывалі, стараліся... на, табе... спажывай... Дрэнна, галубок, ой, як дрэнна...

Галубок тупаў, круціўся і відочна цэліў даць цягаты ад дзедавай ласкі. Нешта карцела яму, нешта рупіла—вочы ў яго бегалі, як мурашкі, і гарэлі агнём вострае нецярплівасьці. Выбраўшы зручную хвіліну, ён спрытна вылузнуўся з дзедавых лоняў, мімаходзь ухапіў кажушок з шапкай і кумільгам пакаціўся за дзьверы.

* * *

Дзедаў спакой цягнуўся нядоўга. Прашуравалі за вакном нечыя важкія крокі, і ён здрыгануўся, як злоўлены злодзей і, палахліва настаражыўшыся, чакаў, што во-во нехта ўвойдзе, нехта пратне яго навылёт страшным праніклівым поглядам і ўбачыць усё і аб усім дазнаецца.

Потым зазьвінелі на вуліцы дзіцячыя галасы, уляцелі ў хату і шчамялямі закруціліся над яго галавой—дакучна, назольліва. Сярод іх вылучаўся тонкі галасёнак унука Амелькі і чамусьці асабліва яго непакоіў. Нейкі час дзед падазронна прыслухваўся да дзіцячага клуму (аб чым яны там стрыкочаць?), але не разабраў нічагуткі і ня ўрымсьціў—схапіў шапку ды ў незразумелай трывозе выбег на вуліцу.

Дзед Альпін убачыў там во што...

Ля варот таўклася цэлая купа дзяцьвішча. Абшарпаныя хлапчаняты крычалі, тузаліся, коўзаліся нагамі ў расьцярушаным сьнезе і рвалі з рук адзін у аднаго шэры пыляны скрутак. Дзехто трымаў у руках жоўтыя бліскучыя кружэлачкі, некалькі гэткіх кружэлачак рассыпаны былі навакол і дзіўна, нязвыкла гарэлі агнёвымі кроплямі на халоднай бялосьці сьнегу.

Дзед Альпін стаў страшны. Мясёны твар яго пабраўся грубымі пукатымі складкамі, і сівое валосьсе ўзьнялося дзіка натапыранай шчэцьцю. З крывым агнём у вачох, з драпежна выцягнутымі рукамі кінуўся ён на дзяцей. З самага нутра ў яго вырваўся жудасны нечалавечы рык.

Дзеці ўзьнялі шалёны лямант, шумархнуліся хто куды, і ля варот астаўся стаяць адзін Амелька. Ён нязграбна трымаў у адной руцэ разьвязаны шэры мяшок, а другую, з жоўтай кружэлачкай, працягваў на сустрэчу дзеду і вінавата ўсьміхаўся.

— Цацачкі... Жоўтыя цацачкі...

Дзед з разгону рынуўся долу, у расьцярушаны сьнег, накрыўшы сваім карчаватым тулавам рассыпанае золата. Аднак, падаючы, ён не забыўся ўхапіцца за крысо Амелькавага кажушка і моцна трымаў яго сударгава сашчэмленымі пальцамі. Колькі сэкунд ён так і ляжаў, раздвоены гневам і сквапнасьцю. Адылі гнеў перамог: адарваўшыся ад золата, дзед зьверам кінуўся на Амельку (на зьбянтэжанага, асалапелага) і касьцянымі кручча-рукамі ўцупіўся ў шыю дзіцяці.

Сьмяротнае хрыпеньне ўнука перамяшалася з зьвярыным дзедавым рыкам. А тады—ударыў раптам, як гром, як страшэнны выбух, спакойны і цьвёрды голас:

— Кінь, дзед... Ня руш...

Дзедавы крючча-рукі самі па сабе разышліся—ён выпусьціў унука і ўжо з крыкам бязьмежнае роспачы паваліўся зноў на сваё золата.

* * *

Дзед Альпін поўзаў раскірэкай па сьнегу і недалужнаграбаў дрыжачымі рукамі. Унук Амелька, лежачы тварам угору, ціха плакаў ад болю ды крыўды і з глыбокім неўразуменьнем глядзеў у шэрае неба. А над дзедам стаяў старшыня сельсавету, варушыў мыском чаравіка жоўтыя кружэлачкі ў сьнезе, моўчкі ківаў галавой і ўсьміхаўся.

# ПАД ЧЫРВОНЫМ СЬЦЯГАМ

**Нарыс БЯЛІНА-ПАДГАЕЦКАҐА**

## КАЛЯ ПАРОМУ

СОНЦА высока стаяла над Бярэзінай і яго праменьні нязьлічоным агнём іскр адлюстроўваліся на роўнай, як шкло, паверхні рэчкі. З левага боку, унізе, чырвонаармейцы купалі коні, з правага боку монатонна і паважна гулі машыны комбінату. А там далей неабсяжна разасьлаліся палі, далёка недзе, за небасхілам, зьліваючыся з бясхмарым і сінім сёнешнім днём.

Каля парому на беразе Бярэзіны бабілёнскае слупатворства. Фурманкі з хлебам ды з харчамі для лягераў, вазы сена, сялянскія фурманкі з мукою, камандзірскія верхавыя коні, чырвонаармейцы камандамі і па адным—усё гэта доўгім ключом стаіць каля парому, чакаючы свае чаргі, каб перабрацца на той бок рэчкі.

— Стой, стой... куды лезеш!—крычыць паромшчык на селяніна, што сіліцца контрабандна пераехаць на пароме.—Чаргі глядзець трэба... бачыш, што і бяз цябе ўжо на пароме багата.

— Ды я ўжо в самага раньня свае чаргі чакаю,—без надзеі гаворыць селянін.—Пусьці, братка.

Але „братка“ ня пушчае.

— З наступным пераедзеш,—гаспадарскім голасам гаворыць ён.

Паром паволі паплыў да другога берагу рэчкі.

— Эй, налягай!—весела крычаць на ім чырвонаармейцы.

І шырокімі мускулістымі далонямі яны цягнуць мокрую і напятую, як струна, тоўстую паромавую вяроўку.

## ШЛЯХІ-ДАРОГІ

— Но-о, пайшлі, мілыя!

Настаяўшыся каля парому, хутка нясуць нас да лягеру добрыя коні. Мігаюць скошаныя лугі, роўнядзі, ямы з яшчэ нявысахлаю ад учарашняга дажджу вадою, баракі Лесбелу, дзе жывуць лесарубы ды сплаўнікі.

— Дзіўна, як можа пераменіцца чалавек за два гады,—задумліва прагаманіў камандзір аддзяленьня, асьцярожна дакурваючы скручаную яшчэ на пароме папіросу.—Вось хоць-бы, скажам, я—зусім цёмным чалавекам у армію прыйшоў. Ні чытаць, ні пісаць ня ўмеў, а замест подпісу на ведамасьцях крыжыкі ставіў. А каб гэта ў політыцы яшчэ разьбіраўся, дык пра гэта і сказаць нельга.

— Ну, а цяпер?—запытаўся я ў камандзіра аддзяленьня, разглядаючы ягоную здаровую фігуру.

— Цяпер?—перапытаўся ён,—цяпер Чырвоная армія мене на чалавека зрабіла. Перш-на-перш пісьменным зрабіла—гэта раз. А далей—і ў політыцы ня дрэнна разьбіраюся і ў партыю ўступіў... Ды к таму-ж і курсы кароткатэрміновыя канчаю—якні-як спэцыяльнасьць будзе.

— А от зараз службу вайсковую скончу і гайда ў сяло!—гаварыў ён далей, курачы дадзеную ўжо мною папіросу.—А сяло наша, эй, як перайначала за гэтыя два гады. Пішуць, што колгас там ужо організавалі. Бадай што ўсё сяло, апрача кулачча, у колгас пайшло.

— І вы таксама ў колгас?

— А як-жа,—зьдзіўлена падняў ён бровы.—Ды я ўжо і заяву падаў.

І падумаў з хвіліну, ён дадаў:

— Самы гарачы бой цяпер у сяле ідзе. Селавому партыйцу ў колгасе цяпер самая работа.

— Та-ак,—задумліва працягнуў ён, калі мы пад'яжджалі ўжо да лягеру.—Вось, таварыш камандзір, разыдземся мы, значыцца, праз пару тыдняў адпускнікі—хто куды. Адны па сёлах раз'едуцца, другія на фабрыкі, на заводы пойдуць, трэція можа і яшчэ на якую больш лепшую работу пададуцца. А ўсе-такі—усе шляхі-дарожкі да аднаго вядуць—да соцыялізму, значыць. Усе мы, значыць, соцыялізм рабіць будзем. І Сьцяпан вось, той самы, на сваёй фабрыцы і Антон, што коняй даглядае, і я вось у колгасе.

Правільна, таварыш каманазір аазяленьня

Палатняны горад з яго вольным жыцьцём, купаючыся ў праменьнях паўднёвага сонца, ветла ўсьміхаўся нам насустрач.

Мы прыехалі.

## У ВЫВЕДКУ

Камандзір роты „два“, таварыш Бярозаў, уважліва разглядаў карту, што ляжала перад ім на стале. Ён увесь час то і рабіў, што падкрэсьліваў нешта сінім алоўкам.

— Так, тэк-с,—мармытаў ён, кусаючы па прывычцы свой доўгі крыху ўжо сіваваты вус.—Падрэчча, Гута, Назараўка... Вось тут, мабыць, з ворагам і стыкнемся. А можа і раней, чорт яго ведае.

І зварочваюся да камандзіраў, што былі ў палатцы, ён строга загадаў

— Выступаем а дванаццатай. Таварыш старшыня, паклапацецеся пра кухню, каб было ўсё ў парадку

* * *

Выступалі. Спачатку ішлі „вольна“, з песьнямі і са стрэльбамі на шлейку. Але ўжо за пяць кілёмэтраў да апошняе стаянкі пашлі трывожныя весткі ад дазораў у ядро выведкі. „Вораг“, якога яшчэ ня было відаць, быў недзе недалёка ад нас. Перадавыя групы выведнае час ці там і тут намацвалі яго.

— У лесе, па правы бок дарогі знайшлі рэшткі вогнішчаў і пустыя скрыначкі ад кансэрваў,—данесьлі з правага флангу.

На левым флянзе справа была пасур'ёзьней. „Вораг“ абстраляў наш дазор з кулямёту. Здалёк, сажняў каля 500 была заўважана яго даволі шматлікая конная выведка.

— Спыніць курэньне!—пачуўся загад па шарох. Падцягнуцца... Уступаем у паласу сутычкі з ворагам.



**У штабе каля тэлефону**

А політрук навучае:

— Вунь вёска Падрэчча. Яшчэ далей Ґута. Трэба вызнаць настрої насельніцтва, за каго яны: з намі ці супроць нас. На вайне, асабліва, калі вайна адбываецца на тэрыторыі ворага, гэта адно з важнейшых пытаньняў, ад правільнага вырашэньня якога залежыць часта посьпех ці няўдача опэрацыі.

— Палоньніка, палоньніка вядуць!—маланкаю разносіцца па шарох.

Сапраўды, да камандзіра роты падводзяць чырвонаармейца, што папаўся ў „палон" у лесе.

— Якое часьці?—пытаюцца ў яго.

Маўчаньне цягнецца. „Вораг" не выдае сакрэту свае часьці. Ён ня хоча быць, нават у гульні, здраднікам.

— Малайчына хлопец,—мармыча сабе пад нос таварыш Бярозаў,—не паказвае сваіх таварышоў ды і толькі. На фронце на такога чалавека во як спадзявацца можна.

І моцна да канвою:

— Палоньніка адвесьці ў штаб батальёну! Ды глядзець, каб ня ўцёк!

„Палоньніка" адводзяць. А падзеі папярэдняй лініі выведкі разгортваюцца з кінематаграфічнаю шпаркасьцю.

— Два кулямёты вядуць абстрэл з пралеску!—даносяць з правага флангу.

— Ад „Гуты" наступае разьдзел ворага!—паведамляюць з левага.

Чутна частая страляніна. Паказваюцца „параненыя". Паведамляюць пра „забітых". Камроты Бярозаў тэрмінова піша данясеньне ў штаб батальёну. Сустрэчны бой не на жарты разгараецца па ўсім фронце.

## БОЙ ЗА БАБРУЙСК

Пяскі, пяскі, пяскі. Цягнем у цемнаце ногі, спатыкаючыся на кожны камень, на кожны пень. Прыдарожныя кусты ў цемры здаюцца гігантамі, а цёмнае неба—бяз зор і бяз месяца—усё пакрыта грознымі хмарамі, неяк душыць на сьвядомасьць, усяляючы кожнаму ўдзельніку паходу нейкую нікім нерастлумачальную трывогу.

Але вось наступова вочы звыкаюцца з цемраю, крок робіцца неяк вальней, цьвярдзей, рашучай. Сям-там у шарох нават успыхваюць аганькі папярос ды люлек, чуцён вясёлы сьмех, гаворка.



У выведцы

— Цішэй, цішэй, таварышы,—перадаюць па шарох загад камандзіра.—Пакінуць курыць, шырэй крок!..

Выведка наша ўжо ўступіла ў бой з „ворагам". Хутчэй, хутчэй да пераправы, на дапамогу таварышам!

Мы паддаём кроку. Спыняем гаворку, набіваем стрэльбы.

Справа блізіцца да разьвязкі. Трэба быць напагатове.

* * *

Разьвіднівае. Па пыльнай шашы, грукаючы гарматамі, праходзіць артылерыя, стараючыся, як мага хутчэй заняць выгадныя для абстрэлу „ворага" пазыцыі на ўсланых кустамі высотах. Вось, увесь прыгнуўшыся да сядла, паўз прылесак імчыцца нейкі выведчык з данясеньнем. А там далей кавалерыя ў поўнай баявой гатоўнасьці. Пяхота з вінтоўкамі і кулямётамі, сапёры ды хэмікі.

Задача, пастаўленая перад намі, вельмі сур'ёзная. Трэба яшчэ, пакуль наста·е дзень, „перакінуць" перадавыя часьці „ворага" ў Бярэзіну. Самім форсаваць рэчку і наступаць далей на Бабруйск, маючы за канцавую мэту—захапіць гэты горад. Хто першы дабярэцца да пераправы, у чыіх руках астанецца да канца ініцыятыва бою, за тым і забясьпечана перамога.



Чатырохногія „сувязістыя" і іх камандзір.

— Хутчэй, хутчэй!—прысьпяшаюць чырвонаармейцы адзін аднаго—з першаю ротаю соцдагавор падпісалі, а валачомся, як бабы. Спознімся да пераправы... Тады хоць і ў полк з сораму не паказвайся.

Хаваючыся ў прыдарожных кустох ад воч самалёту, што кружыцца над нашымі галовамі, бяжымо падбадзёрваючы і рэшту, сілячыся, як мага хутчэй, дабрацца да месца пераправы—рубяжа атакі, усіх нас захапляе баявая абстаноўка, захапляе даўно знаёмы баявы запал. Ва ўсіх адна думка, адно жаданьне: перакінуць „ворага" за рэчку, захапіць пераправу, захапіць Бабруйск, што ўжо цёмнымі сылуэтамі зьлёгку відзен у ранішнім тумане.

Усё часьцей і часьцей да нашага слыху далятаюць разрывы гранат, траскатня кулямётаў, вінтовачныя стрэлы. Вось, цяжка адыходзячы, загаманіла да гэтага часу маўклівая артылерыя, пасылаючы свае... парожнія знарады на той бок рэчкі да „ворага", што таксама хоча заняць пераправу.

— Ура! Ура!—даносіцца да нас ад рэчкі.

Гэта наш галоўны атрад сьмелым ударам „перакінуў" перадавыя часткі „сініх" у халодную ваду Бярэзіны. Шлях на Бабруйск вольны. Пераправа праз рэчку ў нашых руках.

* * *

Другая і трэцяя рота перапраўляюцца ў першую чаргу. Рэшта сьледам за імі. Агалошваецца загад камбату „адзін". Пасьля пераправы, зьбіўшы „ворага" на беразе, паволі пасоўваецца далей на Бабруйск.

Грахоча артылерыя. Агнявое спаборніцтва „ворагаў" дасягае свайго кульмінацыйнага пунку. Але дарэмна пярэчаць „сінія". Сёньня ўся перавага на нашым баку.

— Ура! Ура!—чутно ўжо з таго берагу рэчкі.

Бабруйск „узяты" нашымі „чырвонымі" войскамі.

## „ЗА ВЛАСТЬ СОВЕТОВ"

Манэўры скончыліся. І „чырвоныя" і „сінія", стаміўшыся, разгарачаныя рэпэтыцыяй барацьбы, зьбіраюцца на прылеску, дзе ў паходных кухнях іх чакае ўжо гарачае сьнеданьне.

Пасьля зноў—пяскі, пяскі, пяскі. Зноў рух коленамі па лесе, па дарогах, па канавах.

Але вось недзе здалёк паказаліся шары беласьнежных шатроў, што абяцалі заслужаны спакой і адпачынак—зразу падбадзёрылі шмат каго.

Мы паднялі апушчаныя галовы, падраўнялі шары і бадзёрым, мерным крокам пайшлі далей.

— Песьню! Песьню!

І ўдалая чырвонаармейская песьня, падхопленая сотнямі маладых галасоў, шырыцца і расьце, горда штурмуючы летняе бясхмарае неба:

Смело мы в бой пойдем
За власть советов!

---

Лягер „Бальшавік"
г. Бабруйск.




Барыс Малкін

з цыклю „ВАЙНА“

# БОІ на Дняпры

Нарыс МЯЖЭВІЧА.

Малюнкі Я. РАЗАНАВА.

## „БОЙ" НА ДНЯПРЫ.

### Ул. Эль.

Выкананьнем сёнешняй задачы дакажэце сваю адданасьць рабочай клясе і яе ленінскай партыі.

— Адказам гучыць—ёсьць! Дакажам!

Перад нашым батальёнам пастаўлена досыць складаная задача. Да гэтага часу ўсе атрадныя вучэньні праходзілі ў напрамку наступленьня нашых частак на супраціўніка, які адступае.

Нашым заданьнем зьяўляецца сёньня наступнае: наступленьне на супраціўніка, які замацаваўся, барацьба на абараніцельнай паласе, адступленьне і пераправа праз раку ўброд.

Заданьні праслуханы ўважліва. Накіроўваемся на месца, адкуль выйдзем непасрэдна ў наступленьне. Месца закрытае. Нас хавае сваімі сьценамі і прысадамі былы мужчынскі манастыр—сучаснае сэрца лягеру.

Нарада начальнікаў.

Збор комсамольцаў.

Некалькі кароткіх лёканічных сказаў аб выкананьні пастаўленае перад намі задачы,

Прыступілі да работы аддзялённыя арганізатары, ударнікі комсамольцы. Батальён рассыпаўся на дробныя групкі байцоў



Адбываецца нарада начальнікаў..

У нас няма часу дарма траціць нескарыстанымі і самыя кароткія прывалы.

Падыходжу да другога разьдзелу нашае кулямётнае роты.

Гарачыя спрэчкі, баец з загарэлым чорным тварам упарта даводзіць камандзіру аддзяленьня, што адступаць могуць і павінны толькі нашы супраціўнікі, а ня мы, ня Чырвоная армія.

— Што-ж гэта такое, мы будзем уцякаць, адступаць ад белых наймітаў? Ня згодзен ніяк, з гэтым ня згодзен я!

На яго твары адбіваецца хваляваньне, запал, гатоўнасьць.

Комсамолец, які сядзеў тут-жа, раптам хапіў за рукаў байца з загарэлым тварам.

— Кастусь! Ты павінен згадзіцца, ты памыляешся часткова.

— Ні ў якім разе!

— Уразумей, каб лепш наступаць, трэба часамі рабіць і адступленьні. Але наша адступленьне павінна быць арганізаваным. Трэба старацца, каб было як мага менш страт. Нашай задачай зьяўляецца — захаваць матэрыяльную часьць. Нашы кулямётныя разьдзелы павінны прыкрыць адступленьне стралковых падразьдзелаў.

— А што наш разьдзел будзе апошнім адступаць?

— Так, апошнім.

— Ну, тады я згодзен. Мы яшчэ паглядзім, як мы адступім. Ён узьдымае ўгару моцны кулак і трасе ў бок „ворагу"...

У спрэчках яны зусім не заўважылі, як яны перайшлі ад пыт ньня адступленьня Чырвонай арміі наогул і да сёнешняга адступленьня нашага батальёну.

— Станавіся!

Рушым па беразе Дняпра ля самай вады. Тачанкі з кулямётамі ідуць па вадзе. Коні храпуць, уздымаюць вушы ўгару, баяцца ісьці.

Вакол пануе цішыня—ніводнага гуку, ідзем у калёнку па адным. Кожным байцом сурова выконваецца загад:

— Бяз шуму,—„вораг" блізка.

Уперадзе працуе выведка.

Толькі камень або кавалак зямлі, што часам зрываюцца з крутога берагу, парушаюць спакой.

Мы на агнявым рубяжы. Паўзком на жываце ўзьнімаемся ўгору на бераг. Наш кулямётны разьдзел заняў агнёвы пункт. Чуваць, як назіральнік рапартуе начальніку кулямёта.

— Проста перад намі—лес, ля групы дрэў, што выдзяляюцца наперадзе — аддзяленьне станкавых кулямётаў супраціўніка. Дыстанцыя 900 *м*.

Гучыць каманда.

— Па паказанай цэлі—агонь!

Гучна пачаў выбіваць сваю жалезную песьню кулямёт, справа—другі, зьлева—трэці і яшчэ і яшчэ..

Стралковыя разьдзелы пад прыкрыцьцем нашага агню перакатам пайшлі наперад.

Супраціўнік заняў добрае месца, лоўка ўмацаваўся, упарта абараняецца.

Загаманіла батальённая артылерыя, гранатамёты.

Атрымліваем заданьне: нашаму кулямёту прыказана перакатам заняць левы флянг і непарыўным агнём падтрымліваць далейшае прасоўваньне стралкоў.

Супраціўнік узмацняе агонь. Першы нумар (наводчык) „забіты". Другі нумар займае месца забітага таварыша.

— Бяз панікі, бяз жаху, спакойна наперад!

Агонь ня спыняецца.

* * *

Наш кулямётны агонь спыняе кулямётную гутарку супраціўніка

— У атаку!..

З вялікім парывам, з гучным ура кінуліся стралкі ў атаку. Па дарозе нішчылі акопы супраціўніка.

Перавага на нашым баку.

Супраціўнік адступае. Баец з загарэлым тварам спраўляе сваю ўрачыстасьць. Ён задаволены—яго правата перамагла. - Але-ж, што гэта такое? Стралкі бягуць назад. Супраціўнік раптам усхамянуўся, адкрыў страшэнны агонь, якога нашы падразьдзяленьні ня вытрымалі.



**Маланкай блішчаць маладыя ды сьмелыя вочы...**

Новае заданьне.

Нашаму разьдзелу загадана тэрмінова перакінуцца на правы бераг агню і адтуль кулямётным агнём прыкрыць пераправу войск праз раку.

Стралкі адступаюць.

Форсаваным перакатам ідзем да ракі. Вось Дняпро. Знаёмая рака, родныя берагі. Кожную раніцу ў сваіх хвалях Дняпро купае сотні байцоў. Паверхня вады блішчыць пад гарачым чэрвеньскім сонцам. Хутка цячэ вада.

Стой! Слухай загад, разьдзел станкавых кулямётаў: раку перайсьці ўброд, у поўнай баявой... Перанесьці сухімі стрэльбы, патрэбны супроцьгазы, кулямёты перавесьці на тачанках...

Да дрэва прымацоўваем супроцьгазы, бярэмся за рукі. Сэрца напаўняецца нейкай нечаканай радасьцю. Нібы хто штурхае ўперад.

Адчуваньне, што кожны з нас пераходам ракі творыць вялікую справу, справу абароны адступаючых падразьдзяленьняў, узьнімае парыў энтузіязму.

Сэрца палымнее ад радасьці.

О! стары сівы Дняпро! Захавай нашы сілы, узмацні іх надай бадзёрасьці няўпэўненым.

Які прыгожы Дняпро ў летнія, цёплыя чэрвенскія дні.

Зусім нечакана для ўсіх Міцька-наводчык засьпяваў.

Над хвалямі, у паветры, зазьвінеў яго тонкі срабрысты голас.

Некалькі дзесяткаў маладых бадзёрых галасоў падхапілі, і песьня зьлілася з гулам сівога Дняпра.

Вось яна песьня — песьня ўпэўненасьці ў перамогу, песьня змаганьня працы і радасьці.

Так дружно же в ногу,  
И смело в дорогу  
Только вперед да вперед!  
Нет нам преграды  
И смерти мы рады,  
Если свобода зовет нас вперед!

Камяністае, сьлізкае дно. Расьце глыбіня. Усё вышэй і вышэй узьнімаецца вада. Рады ідуць непарушна. Цьвёрда ставім ногі.

— Таварышы, уперад! Ніводнага байца, які-б напіўся вады!

А вось і другі голас, што ўжо гучыць над Дняпроўскімі хвалямі:

— Нашае дапамогі чакаюць стралкі.

— Хутчэй!

Дняпро, злосна, нібы зьвер, загаманіў буйнымі хвалямі. Высока ўгору ўзьнімаюцца струменьні вады. Рака зьбірае свае старыя сілы супроць нас,—барацьбітоў з старым сьветам, будаўнікоў новага. Зьмітро ўзьняў ганарова галаву і на ўвесь магутны голас пракрычэў Дняпру:

— Эй! пачакай, дзядуля, пройдуць гады і ты паласкавееш. Вось тут праз дзесяткі год вырастуць волаты станцыі, як там на далёкім поўдні ў парогах тваіх...

Дняпро не пачуў Зьмітравых слоў. Дняпро напружвае сілы, каб зьбіць з ног чалавечую масу...

— Мацней трымацца!

— Уперад!

— Таварышы! Моцныя прытрымлівайце слабых.

— Ёсьць!—гучыць над вадой.

Вялікія дні вялікай эпохі. Радасьцю апавіты вусны кожнага байца.

Маланкай блішчаць маладыя вочы.

Перамога!... Перамога над стыхіяй вады. Мы—пераможны!

Хочацца пець, крычаць да страты сьвядомасьці. Хочацца абвесьціць усяму сьвету, каб ён ведаў, што вось тут, у сасновым бары на кручы Дняпра растуць, паланеюць непарушныя сілы адважных, сьмелых герояў, якія ў любы час лакажуць сваю адданасьць Краіне Пролетарыяту, як іхныя старэйшыя браты гэта зрабілі на Далёкім Усходзе.

Каротка падводзім вынікі.

— Хто напіўся вады?

— Такіх няма ў першым кулямётным разьдзеле!—кідае таварыш Пархунцоў.

— Колькі замочана вінтовак?

— Ніводнай!

У ботах цьвякчыць вада, зьбягае з вопраткі срабрыстымі струменьнямі.

— Вось добра, ня трэба будзе заўтра мыць вопратку—добра вымылася.

Ізноў каманда:

— Зважай! Хутка прасунуцца на ўзгор'е, якое раскінулася за могільнікам.

Рушым уперад.

Праз некалькі сэкунд устанаўліваем кулямёты і пачынаем агонь па супраціўніку, які цісьне нашы стралковыя падразьдзяленьні на левым беразе Дняпра.

Бой за пераправу. Напружныя лічаныя хвіліны. Ад нашага разьдзелу залежыць посьпех пераправы ўсяго батальёну.

Экзамен з гонарам вытрымліваем Пераправа за намі. Форсаваным агнём прымусілі замоўкнуць супраціўніка.

І вось на разборы.

Адбываецца невялічкая гутарка камандзіра атраду т. Золатава.

Паўтара месяцы не прайшлі дарам. Сёнешняе вучэньне паказала, што 1907 год ня горш сваіх старэйшых братоў уладае тэхнікай і ведае вайсковую справу.

У моцных колёнах з баявымі песьнямі ідзем у лягер.

Ворша, 192-гі полк.



**Рушым па беразе Дняпра, ля самай вады...**




Нарыс Я. ШКАДАРЭВІЧА        Малюнкі АЗГУРА

З ВЫСОКАГА правага берагу ракі Заходняй Дзьвіны, на якім стаіць мястэчка Дрыса, як на далоні відаць вёска Слабада, што знаходзіцца ў Польшчы. Я з вакна маёй кватэры—заежджага дому глядзеў на той бок дзяржаўнай мяжы, дзе па вузкіх загонах зямлі селянін аднаконным плугам араў сваю палоску.

Вось ён пад'ехаў да суседняй палоскі, прыпыніў каня, падкінуў яму сена, а сам сеў на мяжу і прагнымі вачыма глядзіць на Савецкую Дрысу. Ён бачыць, што недалёка ад мястэчка пабудаваны вялікі ільнзапрацовачны завод. Ён чуе гул трактараў, што працуюць у прымежным колгасе „Пролетары". Да яго вушэй далятае беларуская песня „Ой, да ты, калініца"..., якую пяюць вучні беларускай сямігодкі, будынкі якой стаяць на беразе р. Заходняй Дзьвіны.

А дрысачане апавядаюць:

— Некалькі тыдняў таму назад, калі ў мястэчка Дрыса прыбыла трактарная калёна—10 трактараў—сотні працоўных сялян з вакольных вёсак прышлі глядзець гэтых сталёвых „коняй", бо раней ніколі іх ня бачылі. І з таго боку, з вёскі Слабада і з іншых прымежных вёсак Заходняй Беларусі таксама папрыходзілі сяляне з сваіх хат, пазьбіраліся групамі і глядзелі на Савецкую Дрысу, дзе грукацелі трактары.

Дзеці паўзлазілі на платы, на дрэвы, каб „хоць трошачку пабачыць трактараў, разгледзіць іх".

Але раптам наляцела некалькі конных паліцэйскіх жандараў-пілсудчыкаў, якія бізунамі пачалі хвастаць сялян, заганялі іх у хаты, загадалі завесіць вокны дыванамі з боку ад Савецкай Дрысы.

І ўвесь час, пакуль у м. Дрыса гулі трактары і адбываўся шматтысячны мітынг, на тым баку рэчкі Заходняй Дзьвіны разьяжджалі фашыстыя і заганялі сялян у хаты.

І тады сяляне адчынілі форткі ў вокнах і, адхіліўшы дыван, увесь час сачылі за трактарамі, як яны пасьля мітынгу стройнай колёнай адзін за другім выехалі з мястэчка Дрыса і на шырокім колгасным полі прымежнага інтэрнацыянальнага колгасу „Праўда" пачалі араць зямлю, зьнішчаць межы.

— І заўсёды,—кажа колгасьнік Ануфрэй,—як толькі ў мястэчку Дрыса праводзіцца якое-небудзь рэволюцыйнае сьвята, як, напрыклад, сьвята 1-га Мая, Кастрычнікавае рэволюцыі—фашыстыя-пілсудчыкі тады ня сьпяць. Яны на конях, як ашалелыя, гойсаюць тады па палёх і па вёсках, разганяюць працоўных сялян, каб яны ня зьбіраліся групамі, не глядзелі на Савецкую Беларусь.

**Але-ж ці ёсьць на сьвеце такая сіла, якая-б магла прымусіць зарубежных братоў—працоўных Заходняй Беларусі не глядзець на Савецкую Беларусь?**

Такой сілы на сьвеце няма.

Праз драцяную калючую загарожу, што працягнута ўсьцяж дзяржаўнай мяжы на стыку трох дзяржаў: СССР, Польшчы і Латвіі (недалёка ад колгасу імя Дзяржынскага), праз шырокую раку—Заходняя Дзьвіна кожны дзень чуюць зарубежныя браты—працоўныя Заходняй Беларусі, новыя, бадзёрыя рэволюцыйныя песьні колгасьнікаў, чырвоных пагранічнікаў і дрысенскай моладзі. Вось і зараз, калі я пішу гэтыя радкі, у м. Дрысе чуваць:

Смело мы в бой пойдем
За власть Советов...

і гэтая песьня чырвоных нашых пагранічнікаў далёка-далёка чуваць па той бок ракі Заходняй Дзьвіны—у Польшчы. А словы песьні:

„Взвейся знамя коммунизма
Над землей трудящих масс..."

будзяць рэволюцыйную думку, заклікаюць працоўных да барацьбы за сваё вызваленьне з-пад улады фашыстых.

Я ніколі не забуду гэтага першага спатканьня трактарнай калёны колгасьнікамі колгасу „Усходняя Зара" (вёска Высокая, Дрысенскі раён). Сотні колгасьнікаў вышлі з сваіх хат і віталі трактарыстых. Твары ў колгасьнікаў як ніколі вясёлыя, а настроі—бадзёрыя. Яны рады прыбыцьцю сталёвых „коняй" у іхны колгас. Ня тое можна было назіраць ад некаторых „нехацімцаў". Некаторыя з іх моўчкі стаялі каля свае хаты або падыходзілі да натоўпу і казалі:

— А што нячыстая сіла прыпёрла—прыпёрла.

— Я-ж казаў, Сьцяпан, у сьвяшчэнным пісаньні пісалася: „па вёсках будуць разьяжджаць жалезныя печы. Ну вось трактары і прыехалі,—казаў, як відаць, папоўскі памочнік.

— Пабачым, як парасьце. От, няхай пааруць, пасеюць, тады пабачым,—чуліся галасы.

— Трактар гною не дасьць. Трактар не нас...,—„даводзіў" адзін з тых, што не запісаўся ў колгас.

А колгасьнікі адказвалі:

— У нас ёсьць штучнае ўгнаеньне, якім і будзем угнойваць наша агульнае поле. І жывёла ёсьць. Ня пужай, што поле ня ўгноім. Угноім!

А ў хаце чуваць голас маёй гаспадыні, пажылых гадоў, колгасьніцы:

— Залатое жыцьце прышло.

Трактары гудуць. Дрыжыць зямля. Гул трактараў далёка разносіцца па палёх.

Перабраўшыся праз малую рэчку (маста ня было—сельсавет не паклапаціўся аб гэтым), трактары адным за адным пайшлі на шырокае колгаснае поле.

— Вось тут і будзеце араць. Гэта—наша колгаснае поле,—паказаў рукой колгасьнік „Валодзька" (так яго называюць колгасьнікі). Вунь стаіць высокая палка, едзь проста на яе, рабі першую баразну.

Прыплюшчыўшы вока, моцна трымаючы ў руках руль, праводзіў трактарысты-комсамолец Шыпіла гэтую першую баразну.

Сталёвыя два плугі вярнулі зямлю пластамі на бок. Усьлед за трактарамі беглі дзесяткі малых дзяцей, ішлі пажылыя колгасьнікі ды казалі:

— Ці не дасьцё трошкі пад'ехаць, ну, вунь, хаця-б да тэй палоскі.

— Ідзі, сядзь вось тут,—казалі трактарыстыя,—і бралі з сабой дзяцей і пажылых сялян.

Сяляне, што аралі свае вузенькія палоскі зямлі, пакідалі коняй, падкінуўшы ім сена, а самі беглі за некалькі сот сажняў да трактара паглядзець як ён арэ. А праз хвілін некалькі ўсё колгаснае поле было ўсыпана людзьмі. З суседняй вёскі Кавалькі, запыхаўшыся, прыбегла Балбека Зося са сваімі таварышкамі. Яе першымі словамі былі:

— А скажы, Валодзька, ці паедуць трктары вунь на тую палоску?

— Паедуць і будуць араць.

— Дык трасца-ж вашай матары з гэтым колгасам! Гэта-ж на той паласе 6 пур клалася, а вунь на той—2 пуры (пура—мерка жыта—3 пуды). А цяпер-жа не пазнаеш, дзе была мая палоска,—кажа жанчына, што не запісалася ў колгас

— Правільна, не пазнаеш,—адказваюць колгасьнікі. Трактары і тваю і маю палоску заaруць, зруйнуюць межы, меж ня будзе больш.



Сотні працоўных сялян прышлі глядзець сталёвых коняй...

А Сямёнавам бацьку нешта нездаровілася. Больш двух тыдняў ня выходзіў стары з хаты, а калі пачуў, што прыбылі трактары, ён разам з Сівохам Пятрусём, апрануўшы вялікі кажух, у зімовай шапцы, памаленьку прышоў сюды на колгаснае поле. Доўгі час стаяў стары моўчкі каля баразны ды толькі паглядаў за трактарамі.

А яны, нібы тыя гусі, пакачваючыся, поўзалі па зямлі, укругавую аралі 22 гектары пад яравы клін.

І падыходзілі сяляне да баразны, бралі зямлю на далонь, расьціралі яе ў пальцах, як быццам-бы да гэтага часу ня бачылі зямлі.

А стары Сівох Пятрусь з вёскі Палькоўшчына разам з Сямёнам падышлі да баразны і моўчкі зьмералі яе ў глыбіню і ў шырыню. Я падышоў да старога і пытаю:

— Ну, колькі, дзеду, вяршкоўаруць трактары?

— Чатыры вяршкі глыбіны, паўтары аршыны шырыні бяруць два плугі. Ніколі так даўней не аралі.

— Правільна! Не аралі!—адказваюць колгасьнікі. Во, гэта дык ворыва! Ад такога ворыва і ўраджай добры будзе.

— Ну, гэта яшчэ пабачым,—адказваюць тыя, чые палоскі адышлі пад колгас.




.. **Але раптам наляцела некалькі паліцэйскіх жандараў-пілсудчыкаў...**

А колгасьнікі, каб адчуць работу трактара, узлазяць на крыльлі яго і аб'яжджаюць сваё колгаснае поле. Трактар качае па межах так, што цяжка ўседзець на крыле яго. Але людзі трымаюцца за крыльле трактара і з нейкай нявыказанаю радасьцю едуць па сваім полі.

Вось ускаціліся пярэднія колы на мяжу, прыплюшчылі яе. Заднія колы сваімі шыпамі яшчэ мацней прыціснулі мяжу да зямлі, затым два сталёвыя дыскі разрэзвалі мяжу на часткі і, нарэшце, два вялікія сталёвыя плугі закончвалі мяжу, клалі канец існаваньню яе. І тады колгасьнікі казалі:

— Кончана! Мяжа памёрла, больш ня ўстане.

— Коньмі калі арэш, то мяжа знатна, а трактарамі—нязнатна. А ніколі-ж не пазнаеш ужо, дзе была мая палоска,—чуліся словы ад шмат якіх сялян.

Месцамі трактар прыпыняў сваю работу, бо вялікая скіба дзёрну ад мяжы пападала паміж лемяхамі плугоў. Тады трактарысты, каб не псаваць машыны, хутка саскакваў з сталёвага каня і рукамі выцягваў дзёран з-пад плуга і тады трактар зноў ішоў па полі.

А ў некаторых мясцох, дзе была нізіна і стаяла яшчэ вада, трактар садзіўся. Тады буксавалі заднія колы, глыбока вяз трактар у глеістую зямлю.

— Глядзі, Аўдотка, глядзі! Той ужо сеў. Плюх-плюх. Плюх-плюх. Сеў. Слабо яму цяпер выбрацца,—казала сялянка, што не запісалася ў колгас. Яна, як відаць, была задаволена, калі трактар прыпыняў работу.

Але колгасьнікі дружна падкідвалі пад заднія колы трактара калы і тады „конь" выскакваў зноў на паверхню зямлі. Трактарысты мацней націскаў нагой на пэдалі трактара, тады мацней гудзеў мотор, шпарчэй вярцеліся колы, плугі ўзьнімалі і рвалі дзёран, адкладалі зямлю роўнымі пластамі.

А вось трактар нешта глуха заляскатаў. Скрозь туга закручаную шрубу выбіваецца пара. Трактарысты спыняе ход. Колгасьнікі падносяць халодную ваду, пояць гэтага сталёвага „каня"—астуджваюць радыятар трактара. І трактар зноў пайшоў і пайшоў па полі, руйнуючы на сваім шляху ўсё старое—дзедаўскія межы, жабрацтва вёскі.

— Вось гэта дык работа! Вось гэта дык ворыва! За адзін раз Ягораву паласу забралі, заaралі трактары, а ён даўней 3 дні корпаўся на ёй.

— От табе і трактар!



... **Колгасьнікі з захапленьнем віталі трактарыстых...**

— Цяпер ня пойдзем да кулака і заможнікаў, ня станем згінаць перад імі свае сьпіны ды прасіць дапамогі,—казалі тыя беднякі, якія да ўступленьня ў колгас вымушаны былі прасіць у кулакоў ці ў заможнікаў узяць іх зямлю ў арэнду або дапамагчы абсеяніць поле.

Колгас і трактары канчаткова выкарчоўваюць рэшткі кулацкай эксплёатацыі батрацтва, беднаты і нават серадняков. Трактары робяць цэлую рэволюцыю ў раёне. Колгасьнікі сустракаюць трактарыстых з чырвонымі сьцягамі, абіваюць парогі і ў райкоме партыі, і ў райвыканкоме, райколгассаюзе—просяць прыслаць трактарную колёну ў іхны колгас або пакінуць трактар а хоць-бы яшчэ на пару дзён. А ўсіх колгасаў у раёне 36. Яны організаваны ў пераважнай большасьці ў гэтым годзе. Пад колгасамі 28 процантаў усёй зямельнай плошчы раёну. Сёлета ў раён завезьлі 25 тон гатунковага аўса „Пабеда".

— Даўней ніхто з нас такога аўса ня ведаў. Сеялі поле простым, сваім,—казалі колгасьнікі.

— Ніколі таксама ня сеялі лёну-даўгунцу, зараз у наш раён завезьлі 300 тон. Наш раён—ільнаводны. Пабудавалі вялікі ільнаапрацоўчы завод у м. Дрыса. Хутка электрычная станцыя будзе ў нас. Сёлета распачынаецца будаўніцтва яе,—з гонарам казалі колгасьнікі.

— Запалім лямпачку Ільліча, дык яшчэ далей будзе відна савецкая Дрыса з таго боку дзяржаўнай мяжы, з хат вакольных прымежных вёсак Заходняй Беларусі.

* * *

А па той бок ракі Заходняя Дзьвіна—у Польшчы ня чуваць песьні. Там не да песень.

У ціхі вясеньні вечар, калі м. Дрыса бурліць новым жыцьцём,—там, у вёсцы Слабада—цішыня

Там, па той бок дзяржаўнай мяжы, сяляне аднаконнымі плугамі аруць вузкія свае палоскі зямлі. Чуючы гул трактараў на шырокіх колгасных палёх ды бадзёрую рэволюцыйную песьню колгасьнікаў, часта прыпыняюць сваіх коняй і прагнымі вачыма глядзяць на Савецкую Беларусь. Яны—зарубежныя браты—працоўныя Заходняй Беларусі жывуць думкамі рабочых і працоўных сялян вольнай Савецкай Беларусі, яны часта зьбіраюцца групамі і гутараць пра бальшавіцкую сяўбу. Каля самай дзяржаўнай мяжы польскія фашыстыя выселілі „неблаганадзейных" сялян, а на іх месца пасадзілі былых легіонэраў, выслужаных перад Пілсудзкім, так званых асаднікаў. Гэтым асаднікам Пілсудзкі даў лепшую зямлю—хутары і з гадаў: „Пільна сачэце за дзяржаўнай мяжою, абараняйце яе ад бальшавікоў і бальшавізму".

Але-ж ці ёсьць на сьвеце такая сіла, якая-б павярнула кола гісторыі назад?

Такой сілы на сьвеце няма.

— Сёньня мы руйнуем спрадвечныя межы пасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, а блізіцца час, што ня будзе ніякіх меж,—казаў колгасьнік колгасу імя Дзяржынскага ў дзень першага выезду колгасьнікаў у поле.

Яго словы далёка былі чуваць на той бок дзяржаўнай мяжы ў прымежнай латвійскай вёскі Цынгелі і ў суседніх вёсках Латвіі і ў Польшчы.

# ПРАВЕРКА БАЯВОЙ ГАТОЎНАСЬЦІ





Чатыры дні вяліся жорсткія бойкі арміі „чырвоных" з арміяй „сініх". Чатыры дні барацьба дала посьпех ці „сінім", ці „чырвоным".

Армія „чырвоных" у шлёмах з чырвонай зоркай. Армія „сініх"—у зялёных шлёмах з сінімі кантамі, а на канцы таксама чырвоная зорка. У „сініх" і „чырвоных" — часьці Беларускай Вайсковай Акругі адзінай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі.

Манэўры былі цяжкім экзамінам, на якім падагульваліся вынікі гадавой работы па ўзьняцьцю баявой падрыхтоўкі байца, праверана здольнасьць камандзіра кіраваць боем, здольнасьць палітпрацаўніка прыстасавацца да баявых абставін, сваячасова і хутка ахапіць чырвонаармейскія масы ўплывам партыйнай арганізацыі.

Манэўры паказалі, што начальніцкі склад, палітычны апарат і партыйныя арганізацыі цалкам і пасьпяхова справіліся з задачамі, якія былі пастаўлены камандаваньнем.

У працягу чатырох дзён у напружанай абстаноўцы маршу часьці вырашылі баявыя задачы. Правяралася баявая здольнасьць пяхоты весьці бойку з тэхнікай, перамагчы тэхніку, правяралася узаемадзейнасьць у бойцы пяхоты, артылерыі і кавалерыі, авіяцыі і мотэрызаваных часьцей. Бойкі разгортваліся ў вельмі складанай абстаноўцы. Войска павінна было форсіраваць рэкі, пераходы рабіць уначы, дзейнічаць у тумане, у лесе.

І „чырвоныя" і „сінія" праявілі вялікую рухомасьць. Яны паказалі, што часьці могуць весьці сучасны бой, ведаюць яго вымаганьні і навучыліся апанаваць тэхнікай, ужываць тэхніку.

Шырокай хваляй ударніцтва і соцыялістычнага спаборніцтва былі ахоплены ўсе часьці, якія ўдзельнічалі ў манэўрах. Найвялікшы героізм паказалі асобныя байцы і часьці пры вырашэньні даручаных ім баявых задач. Некаторым часьцям прыходзілася раніцою быць у полі, як пачаліся замаразкі. Ніводнай скаргі на стомленасьць, на асобныя недахваты паходнага жыцьця.

Работа лётнікаў адзначалася хуткасьцю выкананьня пастаўленых задач. Пасьпяхова дзейнічала кавалерыя. Тэхнічныя часьці, якія дзейнічалі на манэўрах, паказалі выключную рухомасьць і вялікую вывучку.

Спаборніцтвам і ўдарніцтвам пантонныя часьці наводзілі масты на 20—30 хвілін раней, чым гэта прадугледжана статутам. Са-

пёрныя часьці апускалі надувныя лодкі на ваду на 8—10 хвілін раней тэрміну. Пяхотныя і кавалерыйскія часьці давалі павышаныя нормы сутачнага пераходу. Бранявыя часьці давалі менш аварый і большую экономію гаручага матар'ялу.

Усё гэта паказвае, што часьці Чырвонай арміі, якія драліся на манэўрах, цалкам гатовы да вырашэньня задач, ня толькі на палёх манэўраў, але што ў сапраўднай баявой абстаноўцы яны з гонарам вырашаць задачы, пастаўленыя перад імі партыяй і ўрадам.

Манэўры паказалі, што наш чырвонаармеец перарадзіўся. Ён стаў новым байцом, рухомым, ініцыятыўным, і з ім можна сьмела пераходзіць да вышэйшых формаў бою.

Чырвоная армія вырасла ня толькі ў ваенным сэнсе. Яна ўзмацнела як магутны палітычны колектыў, які непахісна стаіць на абароне генэральнай лініі партыі і які дасьць руйнуючы адпор усім і кожнаму, хто пасягне на заваёвы Кастрычнікавай рэволюцыі.









**ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ ГАТОВА!**

НА ЗДЫМКАХ:

▼ Штаб манэўраў

▼▼ Кавалерыя на вучобе

▼▼▼ Ля кулямётаў

▼▼▼▼ Чырвоныя лётнікі

# І ЎДЗЕНЬ І ЎНОЧЫ

## (З прычыны надыходзячай „дэкады абароны")



Мы ня ведаем, калі будзе вайна. Мы дакладна ня ведаем тэрмінаў вайны; гадаць пра гэта—занятак бескарысны і ненаейны. Але мы ведаем, што гэтая вайна няўхільна, мы ведаем, о яна надзвычайна хутка насоўваецца, што яна вырастае і з сучасных супярэчнасьцяй капіталістычнага сьвету. Небясьпека вайны перш за ўсё існуе ў тых супярэчнасьцях, якія выклікаюцца фактам існаваньня двух прынцыпова супроцьлеглых грамадзкіх сыстэм: соцыялістычная — СССР і капіталістычная — увесь буржуазны сьвет.

Вайна можа выбухнуць наперакор нашаму жаданьню ў любы момант.

Больш таго: вайна можа стаць фактам нават наперакор волі капіталістычных дзяржаў на сёнешні дзень, бо міжнародная абстаноўка гэтак напружаная, столькі ўжо зроблена для падрыхтоўкі вайны, што „гарматы самі могуць загаварыць".

Будучая вайна ў першую чаргу будзе накіравана супроць СССР. Сусьветны капітал з вялікім жахам сочыць за нашым ростам і разьвіцьцём, за ростам соцыялізму ў нашым краі. Капіталізм бяз крывавай барацьбы свае позыцыі ня здасьць. Перажываючы вялізарны гаспадарчы крызіс, буржуазія хоча ўсю адказнасьць за свае экономічнае банкруцтва, за мільёны беспрацоўных рабочых гораду і вёскі, ускласьці на Савецкі Саюз. Кампанія супроць савецкага „дэмпінгу" вядзецца галоўным чынам для таго, каб выклікаць антысавецкі настрой сярод сялянскіх мас Польшчы, Вэнгрыі, Румыніі і Балкан. Гэтыя масы, па свайму гэографічнаму стану, разглядаюцца, як асноўная ваенная маса, якая ў першую чаргу будзе пушчана для заваёвы СССР для капіталізму. За кулісамі дыплёматыі, за кулісамі вайсковых штабаў ворагі Савецкага Саюзу дзейнічаюць над стварэньнем адзінага фронту супроць СССР. І вось патрэбная для гэтага фронту салдацкая маса павінна быць пастаўлена пры дапамозе кампаніі супроць Савецкага „дэмпінгу".

Растлумачваючы беспрацоўным, што Саветы вывозяць на сусьветны рынак тавары ніжэй сабекошту і што танна прадаючы збожжа Саветы руйнуюць сялянскія гаспадаркі,—капіталістыя ня толькі хочуць зьняць з сябе адказнасьць за экономічны крызіс, але і яшчэ ўказваюць масам на, нібы, конкрэтнага віноўніка іх галоднага стану.

Але гэтым ня вычэрпваюцца пляны імпэрыялістых. Яны ведаюць, як цяжка будзе, ня гледзячы на ўсе іх штукарствы, пачаць вайну супроць СССР, адкрыта нападаючы на краіну, дзе будуецца соцыялізм. Яны ведаюць, якой популярнасьцю карыстаецца савецкая краіна ў шырачэнных масах Захаду. Яны ведаюць, што нават рабочыя, якія ідуць за соцыял-дэмократычнымі правадырамі, спачуваюць СССР. І таму, тактычная задача буржуазіі заключаецца ў тым, каб паставіць СССР у гэткае становішча, пры якім Савецкі Саюз быў-бы вымушаны ўзяцца за зброю, каб са зброяй у руках пракласьці сабе шлях. Мы добра памятуем мінулагоднюю спробу сусьветнага капіталу ўцягнуць нас у вайну з Кітаем. СССР ясна і цьвёрда адказаў на гэтую провокацыю: мы вайны ня хочам, мы вядзем адкрытую мірную політыку, мы хочам будаваць соцыялізм у нашым краі, мы будзем усімі сіламі змагацца за мір. Але мы, бязумоўна, ня будзем сядзець склаўшы рукі, пакуль вораг будзе апустошваць нашыя межы.

Чым вырашыўся напад белакітайцаў? Некалькі моцных udaраў арміі тав. Блюхера і капіталістычныя парабкі адразу ацьверазелі.

Але самы факт нападу на нашыя ўсходнія межы паказаў працоўным усяго сьвету, што буржуазія бязупынна рыхтуе вайну супроць СССР, што яна чакае толькі зручнага моманту, каб напасьці на СССР.

Буржуазія літаральна шалее, чытаючы весткі аб ходзе выкананьня нашай пяцігодкі. Ацэньваючы наш пяцігадовы плян, адна амэрыканская часопісь піша:

— Амэрыканскі дзелавы чалавек, чытаючы гэтую кнігу, ніяк ня можа адчапіцца ад пачуцьця надзвычайнага зьдзіўленьня. Програма гэтая настолькі аглушае вас, што, азнаёміўшыся з ёю, мімаволі закрычыш: „Ня можа таго быць!".

Увесь буржуазны друк узьняў дзікі шал: калі пяцігодка будзе выканана, тады СССР зробіцца непераможнай дзяржавай, тады наступіць грозная небясьпека для капіталізму.

„Сёньня Расія, заўтра Эўропа, пасьля заўтра іншыя часткі сьвету,—пісала адна нямецкая газэта.—Калі Эўропа дасьць падзеям разьвівацца па свайму жудаснаму шляху, дык мы будзем ведаць, што Эўропа наогул ня існуе, таму што СССР ужо зараз хістае глебу, на якой стаіць Эўропа. Тады канец Эўропе, канец усяму што да яе адносіцца".

Але, наша перамога, гэта ёсьць канец буржуазнай Эўропе, канец капіталістычнага панаваньня, гэта ёсьць перамога сусьветнай рэволюцыі.

І яны ўжо зараз рыхтуюцца да вайны з намі. Ва ўсіх кутках зямной кулі капіталізм узмацняе свае позыцыі да барацьбы з намі. Капіталізм хоча ўдарыць па нас яшчэ да таго часу, як мы будзем цалкам гатовы да абароны. Вось чаму і ўдзень і ўночы нам трэба рыхтаваць абарону, бо мы дакладна ня ведаем, калі распачнецца вайна.

Мы ня можам дакладна ведаць, якою будзе вайна. Гэта ўрэшце будзе залежыць ад таго, на якім узроўні і на якой стадыі разьвіцьця ці распаду вытворчых сіл будуць знаходзіцца ў гэты момант капіталістычныя краіны. Гэта будзе таксама залежыць ад таго, на якім этапе будзе знаходзіцца соцыялістычнае будаўніцтва ў нашай краіне, а таксама і разьвіцьцё соцыяльнае рэволюцыі на Захадзе.

Таму, орыентуючыся на тое, што вайна можа выбухнуць у любы момант, мы павінны ўлічваць асноўныя тэндэнцыі разьвіцьця ваеннае справы і падрыхтоўку да вайны ў краінах імпэрыялізма. Трэба таксама ўлічваць рэсурсы для ўзброенай барацьбы, якія ствараюцца для пролетарыяту, па меры разгортваньня соцыялістычнага будаўніцтва СССР.

Гэта ўрэшце будзе залежыць ад падрыхтаванасьці ня толькі матэрыяльных, але і людзкіх рэсурсаў краіны пролетарскай дыктатуры, бо ў канчатковым выніку лёс вайны вырашае чалавек. Яшчэ ў канцы 1920 году, калі нашая вайсковая тэхніка знаходзілася на надзвычайна нізкім узроўні разьвіцьця, францускія і ангельскія генэральныя штабы давалі наступную ацэнку нашай Чырвонай арміі:—з ваеннага пункту погляду армія сур'ёзнай сілай не зьяўляецца; з політычнага—яе зброя настолькі магутная, што ўся заходня-эўропэйская тэхніка перад гэтай зброяй нічога ня можа рабіць і ня можа дасягнуць пастаўленых ваенных мэтаў.

З таго часу шмат чаго зьмянілася. Вырасла яшчэ больш ня толькі політычная зьнітаванасьць і сьвядомасьць Чырвонай Арміі; яе тэхнічная ўзброенасьць за гэты час дасягнула ўзроўень заходня-эўропэйскага войску. Адсюль належныя вынікі для сябе робіць сусьветны фашызм, які ставіць сабе мэтай спыніць разьвіцьцё нашае магутнасьці. Належныя вынікі зробім і мы.

Мы жывем у дзяржаве, якая імкнецца да соцыялізму; мы з давер'ем глядзімо на маршыруючых чырвонаармейцаў; але-ж сіла нашае дзяржавы заключаецца ня толькі ў заўчасна абучаным войску, ня толькі ў складах загатоўленай зброі. Лёс вайны будзе вырашаны ня тым паўмільёнам, які зараз вучыцца ў

чырвонных казармах, а ў дзесяць ці ў дваццаць раз большымі масамі,—лёс вайны будзе вырашаны сіламі ўсяе краіны.

У вайсковую форму апрануты зараз толькі наш авангард, які можа толькі выгадаць час пакуль уся краіна ўзварушыцца. Мы—галоўныя сілы: рабочыя варштатаў, рабочыя палёў, калгасьнікі, працоўныя сяляне, служачыя, студэнты, чыгуначнікі, тэлеграфісты.

Наша стаўка—на актыўнасьць мас, на тое, што кожная асобная адзінка не схаваецца ў сваёй уласнай індывідуальнай абывательскай шкурлупе, не застанецца пасыўным гледачом. Што кожны павінен рабіць для абароны?

Купіць значок, ахвяраваць рубель на дырыжабль і вечар для заслуханьня дакладу аб „дэкадзе абароны"? Справа добрая, карысная, але толькі гэтым ня вычэрпваецца кола нашых абавязкаў і клопатаў аб абароне. Дзяржава ад нас вымагае значна больш. Мы можам галасаваць за рэзолюцыю, прымаць удзел у дэмонстрацыі супроць вайны. Але-ж вайна вырашаецца не рэзолюцыямі і дэмонстрацыямі!

Мы пераможам, калі добра ўявім сабе, што такое будучая вайна, чаго яна вымагае ад кожнага грамадзяніна.



Каманда ТДА Авіяхэму дэгазуе мясцовасьць.

Паслухаем, што гаворыць пра апошнія гады вайны, амэрыканскі дасьледчык—Бэйкліс.

„Саюзьнікі (г. зн. Англія, Францыя, Амэрыка ды іншыя) не пасьпелі яшчэ ўжыць, але шпаркімі тэмпамі рыхтавалі да наступленьня вялізарныя аэропляны бомбавозы з эорабомбамі надзвычайна вялікай сілы. Прабавалі аэропляны бяз лётнікаў, якія забясьпечваюць такім чынам жыцьцё лётнікам, і, што з ваеннага пункту погляду асабліва важна, дае мажлівасьць замяніць вагу лётніка адпаведнаю колькасьцю бомб... Саюзьнікі будавалі тысячы новых аэропланаў, гатовых сеяць сьмерць і зруйнаваньне па ўсёй Нямеччыне. Яны выпрацавалі новыя газы, ад дзейнасьці якіх выратоўвалі толькі сакрэтныя маскі, невядомыя немцам. У сваю чаргу, нямецкае камандаваньне рыхтавала налёт на Парыж з тысячамі тон гаручага фосфару, якога ня можна было затушыць ніякімі дагэтуль вядомымі супроцьпажарнымі мэтодамі. За гэтай эскадрыляй павінны былі прысьці другія з цяжкімі бомбамі, якія лёгка кідаць уначы ў гаручы факел гораду. Выпрацоўваліся мэтоды, каб закідаць гарады бомбамі з атрутнымі газамі..."



Зусім зразумела, што ўсе гэтыя сакрэты нікуды ня згінулі. Іх ніхто не паліў, нікго ня зьнішчаў. Мінулі першыя месяцы пасьля вайны, дэмобілізацыі, рэволюцый і контррэволюцый—і генэральныя штабы са ўсякімі хэмічнымі і іншымі лябораторыямі ўзяліся падагульваць вопыт вайны. Старыя дасягненьні яшчэ больш удасканальваюцца. Арміі краін-пераможцаў амаль цалкам пераўзброіліся. Надзвычайна вырасла тэхніка — энэргетычная ўзброенасьць сучасных армій. Разам з гэтымі зьменамі перабудоўваюцца сыстэмы арганізацыі ўзброеных сіл. Выпрацоўваюцца найлепшыя спосабы ўжываньня гэтай найноўшай ваеннай тэхнікі ў баю. Удасканальваецца і падрыхтоўка жывой сілы. Для гэтае мэты выкарыстоўваюцца найлепшыя навуковыя сілы, вышукваюцца пэўныя сродкі выхаваньня чалавечага матэрыялу для барацьбы ў складанай абстаноўцы сучаснай вайны.

Надзвычайна хутка расьце забесьпячэньне арміі тэхнічнымі сродкамі. Новыя конструкцыя зброі надзвычайна шпарка ўзьнімаюць яе хуткасьць, далёкабойнасьць; павялічваецца колькасьць аўтоматычнай зброі; мэханізацыя транспорту значна павышае падачу баявых прыпасаў і г. д. і г. д.

Такім чынам мы бачым, што лёс вайны ў пераважнай меры, залежыць ад таго, як краіна будзе падрыхтавана забясьпечыць сваю армію тэхнікай вайны, колькі яна здолее даць для вайны аэропланаў, гармат, кулямётаў, стрэльбаў, аўтомобіляў. Лёс вайны залежыць ня толькі і ня столькі ад арміі, колькі ад усяе краіны ў цэлым.

Індустрыялізацыя нашай краіны, пасьпяховае выкананьне пяцігадовага пляну наогул і ў першую чаргу па цяжкой індустрыі ўзьнімаюць абараназдольнасьць нашае краіны на нябывалы дагэтуль узровень. Узброеньне нашай арміі, тэхніка нашай абароны будуць яшчэ больш узрастаць па меры індустрыялізацыі СССР і яго вызваленьня ад экономічнай залежнасьці ад капіталістычнага сьвету.

Наш лёс, лёс нашага соцыялістычнага будаўніцтва цалкам знаходзіцца ў нашых уласных руках. І таму, калі паўстае пытаньне: што кожны павінен рабіць для ўмацненьня абароны краіны, што кожны павінен рабіць у „дэкаду абароны"?—мы адказваем:

стопроцантнае выкананьне прамфінпляну — умацняе нашую абараназдольнасьць;

кожны чырвоны абоз са збожжам, бульбай, ільном,—павялічвае непераможнасьць нашае краіны;

кожная тона вугалю, бавоўны, торфу, нафты, мэталю, цэмэнту, тавараў і продуктаў, здабытыя звыш пляну, — яшчэ больш пашыраюць нашыя ўнутраныя рэсурсы абароны;

кожная новая школа, новы клюб, новая кніга і газэта павялічваюць сьвядомасьць шырокіх мас СССР і іх гатоўнасьць да абароны.

Таму і ўдзень і ўночы—мы ня ведаем, калі распачнецца вайна—будзем помніць пра абарону. На фабрыцы ля варштату, на полі ля трактару і плуга,—заўжды памятай пра небясьпеку вайны. Гэта першая асноўная ўмова для нашай гатоўнасьці для адпору.

Заўжды памятай, пра унутраных ворагаў у нашае краіны. Гэта шкоднік, які падрывае і зьнішчае нашае соцыялістычнае будаўніцтва. Гэта правы опортуністы, якія, зьяўляючыся кулацкай агентурай у нашых шэрагах перашкаджае працоўным масам перамагаць усе перашкоды на шляху да соцыялізму. Гэта нацыянал-опортуністы і нацыянал-дэмократ, якія ў саюзе з контррэволюцыйным замежным фашызмам хочуць зьнішчыць Савецкія рэспублікі, каб стварыць у насфашысцкую дзяржаву.

Але гэта толькі агульныя, абавязкова патрэбныя меры абароны. Але ці ведаем мы пра тое, што трэба рабіць за межамі нашага прадпрыемства? Што трэба ведаць пра свой го ад, свой раён? Якую ролю наш горад ці вёска адыгралі ў сусьветнай і грамадзянскай вайне? Колькі збожжа і продуктаў наш раён даў і можа даць для патрэб вайны? Як наш раён дапасоўваўся да тых перашкод, а часам і недахвату харчоў, якія былі ў часе вайны? Чым наш раён моцны і якія яго „вузкія месцы“, якое яго значэньне ў агульнай абароне СССР? Якая роля БССР, як прымежнай Савецкай рэспублікі?



Кулямётныя тачанкі.

Ці шмат хто з нас пра гэта ведае На жаль—мала хто, ды вельмі мала. Мы павінны пра ўсё гэта ведаць. Гурткі абароны, школы абароны, дамы чырвонай арміі павінны нам пра ўсё гэта сказаць. Старыя рабочыя, маладыя хлопцы, дзяўчаты, работніцы, служачыя павінны ведаць пра задачы нашай абароны.

У „дэкаду абароны“ праверым нашыя вайсковыя гурткі ячэйкі асоавіяхіму, як яны рыхтуюць абарону, ці ўсё мажлівае і патрэбнае яны зрабілі каб падрыхтаваць ня толькі кадры абароны, але таксама і шырокія масы. Трэба, каб маса шчыльна падышла да пытаньняў абароны.

Праверым свае вайсковыя веды. Пабудуем цір, калі яго няма. Пойдзем у цір, там дзе ён ёсьць. Наладзім спаборніцтва: хто лепш страляе. Гэта адразу павяліч ць цікавасьць да пытаньняў абароны.

Будучая вайна—загадка. Для тылу няма статутаў, якія-б тлумачылі і рэгулявалі нашую работу. Статутаў і ня можа быць, але нам ад гэтага не лягчэй. Ахвяруем шэраг вечароў на тое, каб прадумаць свае месца і ролю ў будучай вайне. Шмат хто думае, што пачаткам вайны нам прыдзецца толькі нюхаць атрутныя газы. Гэта глупства,—нам трэба рыхтавацца і знаёміцца з вайной на значна больш шырокім фронце.

Для гэтага і прымем актыўны ўдзел у „дэкадзе абароны“. Ды ня толькі ў адней дэкадзе. Абарона вымагае ад нас бязупыннай увагі і гатоўнасьці. Вось чаму ня толькі ў адну дэкаду, але і ўдзень і ўночы будзем рыхтаваць абарону.

Будзем памятаць: СССР вайны ня хоча. Мы хочам мірна працягваць соцыялістычнае будаўніцтва ў нашай краіне. Сусьветная буржуазія хоча сарваць нашу мірную работу. Моцна ўдарым па руках таго, хто спрабуе парушыць нашу мірную працу.

---

ПЯТРУСЬ БРОЎКА

# ТАВАРЫШУ

## ПАМЯЦІ ПАЎЛЮКА ТРУСА

Смутак нясьлі мы
 жалобнымі маршамі.
Навошта—
 апошняя ростань наладжана? -
Слова на сьмерць
 дарагому таварышу
сьлязой перамыта
 і скрухаю зважана.
Поэт-чалавек
 штурмуе вышыні,
Чаму-ж гэтак рана
 сьціскаюцца векі.
Кожны дзень
 сэрца
 мяняе машына,
—толькі
 адно
 ў чалавека.
Далёкага
 сёньня
 сады не пасьпелі,
а краску ў садзе
 адну сьмерць украла...

Здаецца ўсё тыя агні,
 што гарэлі,
ды звонкае песьні
 на фронце ня стала.
Мне крыўдна,
 што морадасьць
 кінулі сілы.
Жывога хачу зноў,
 такога як ты!
...як буйнымі ветрамі
 песьня насіла
з мулярам цэглу
 па ўсходнях крутых.
Так.
 Майстры ня стала.
Ня быць недапетай
 той песьні, што высіла
 ўзьлёт галавы.
Хай муза замоўкла
 ў сэрцы поэта,
муза іграе
 ў турбінах жывых.

Памяць, пастой!
 ня трывож больш,—
 ня кратай!—
[плыве дамавіна
 з апошнім вянком]
балючая ростань
 з таварышам, братам,
балюча да сьмерці,
 з поэтам-байцом.
Бывай назаўсёды!
 Астатні раз
 глянуў.
Табе ўжо разам
 з жывымі ня быць,
а песьні стаяць вартавымі,
 як раней
на вежах
 няскончанае
 барацьбы.

Менск.

# ГОЛАС МІЛЬЁНАЎ

## НАРЫС Г. РУГЕРА



**Крывавы Цэргібель за „работай". „Галасуйце за спісак сацыял-здраднікаў!"**

I

У Бэрліне пачынаецца перавыбарчая кампанія. І сёньня зусім не для выпіўкі зьбіраюцца рабочыя - комуністыя на рагу ў рэстаране ў тоўстага Мюльлера.

Тут — штаб-кватэра атраду перадвыбарчых агітатараў. Тут раздаюць скарбонкі на збор грошай да перавыбарчае кампаніі, што так дорага каштуе (у комуністычнае-ж партыі Нямеччыны няма добрых дзядзечкаў, як у социял-фашыстых, каб фінансаваць перадвыбарчую кампанію. Па грошу, па пфэнігу зьбіраюцца на гэта сродкі сярод рабочых). Тут раздаюць лістоўкі, адозвы, комуністычную літаратуру. А пасьля, нагрузіўшыся данельга ўсім гэтым перадвыбарчым матар'ялам, разыдуцца таварышы па рабочых кварталах, агітуючы за сьпісак нумар 4, пропагандуючы сярод рабочых комуністычныя ідэі, клічучы рабочых на барацьбу за ўладу саветаў—за савецкую Нямеччыну.

Ня роўна спатыкаюць комуністых у дварох шматпавярховых дамоў, у вялікіх і мален кіх кватэрах.

— Рабочыя ды работніцы, службоўцы ды хатнія гаспадыні, працоўнае насельніцтва Нэйкельна!—кажуць комуністыя.—Мы заклікаем вас галасаваць на выбарах за комуністычную партыю, за спісак нумар 4.

— Гэта мы і зробім,—адказваюць ім у рабочых кватэрах,—можаш не клапаціцца, таварыш.

У другіх мясцох, дзе яшчэ моцны ўплыў соцыял-фашыстых, іншы адказа:

— Вось чаго захацеў. Ну, не, брат!

Стаміўшыся, ня чуючы пад сабою ног, варочаюцца ўвечары да сябе на кватэры комуністыя. У іх няма ў руках солідных чэкаў, як у соцыял-фашыстых. У іхных кішэнях зьвіняць толькі сабраныя за дзень мядзякі ды пфэнігі—рабочыя грошы.

Але гэтыя пфэнігі ім даражэй за тысячы, за дзесяткі тысяч марак. Бо гэтыя пфэні і—працаю ды крывёю здабытыя грошы пролетараў — дзяцей тае самае рэволюцыйнае клясы.

Яны ня пахнуць здрадамі.

— Галасуйце за сьпісак № 1!—крычаць на ўсіх скрыжаваньнях соцыял-дэмократычныя правадыры.

— Галасуйце за сьпісак № 9!—утораць ім гітлераўцы, нацыянал-соцыялістыя, як яны сябе клічуць.

Ды хіба ў назьве справа? Ва ўсякім выпадку, няма ўжо розьніцы між соцыял-дэмократамі і нацыянал-соцыялістымі. Абедзьве гэтыя групы, як і партыя цэнтру, як і партыя каталіцкіх папоў —усё гэта фашыстыя самае чыстае вады, усё гэта паслугачы капіталу і паклоньнікі параграфу 48 констытуцыі гіндэнбургаўскае Нямеччыны [1]).

II

Соцыял-дэмократы ўжо з першых дзён імпэрыялістычнае вайны ступілі на сьлізкую дарожку згодніцтва і супрацоўніцтва з капіталістымі. Гэтая сьлізкая дарога прывяла іх проста да соцыял-фашызму.

Ці варта нават успамінаць усе іхныя „заслугі" перад рабочаю клясаю? Згодніцтва з дзяржавамі Антанты па пытаньні пляну Юнга, націск на рабочую клясу, пабудова браняносцаў, расстрэл рабочых дэмонстрацый першага мая 1929 году і шмат чаго падобнага да гэтага. Усё гэта вельмі добра вядома, усяго гэтага ня можа забыць ніводзін сьвядомы рабочы нямецкае, па ўль што яшчэ гіндэнбургаўскае, рэспублікі.

І нямецкі рабочы пачынае разумець гэта. Калі ў 1919 годзе пры выбарах у нямецкі ўстаноўчы сойм, за сьпісак соцыял-дэмократаў было падана 11.509.000 галасоў, дык на выбарах у рэйхстаг у 1920 і ў 1924 годзе лік паданых за соцыял-дэмократаў галасоў зьніжаецца да 6.104.000 у 1920 годзе і да 6.009.000 галасоў у 1924 годзе. Праўда, пры выбарах у рэйхстаг у 1928 годзе лік паданых за соцыял-дэмократаў галасоў падвышаецца да 9.151.000, але ўсё-ж такі страта іх у параўнаньні з выбарамі ва ўстаноўчы сойм у 1919 годзе на два мільёны галоўным чынам рабочых галасоў. І што асабліва трэба адзначыць, дык тое, што гэтыя рабочыя галасы перайшлі да комуністычнае партыі, якія, яшчэ ня існуючы ў 1919 годзе і маючы пры выбары ў рэйхстаг у 1920 годзе ўсяго 590.000 галасоў,—на выбарах у рэйхстаг у 1928 годзе апіралася ўжо на 3.263.000, бадай выключна, рабочых выбіральнікаў.

Рабочая кляса Нямеччыны паволі, але верна пачынае ацьвярожвацца ад соцыял-дэмократычнага дурману. І, пакідаючы партыю соцыял-фашыстых аграмадная большасьць гэтых рабочых ідзе ў партыю ваяўнічага пролетарыяту—комуністычную партыю.

---

Нямецкі фашызм—у прыватнасьці нацыянал-соцыялістычная партыя—бярэ свой пачатак з вайсковых організацый 1918-19 г. Тады гэта ня было, строга кажучы, політычнай партыяй у тым сэнсе, як мы прывыклі разумець пад гэтым словам. Нямецкія фашыстыя 1918-19 году—гэта монархістыя, генэралы, афіцэры, часткова дваранская і буржуазная моладзь. Яны марыць пра аднаўленьне монархіі ў Нямеччыне, пра зварот Вільгельма, пра рэванш у дачыненьні да саюзьнікаў. Яны без усялякіх політычных програм і доўгіх дыскусій гатовы выйсьці са зброяю ў руках „за радзіму імпэратара", калі загадае начальства.

У 1920-21 годзе і пазьней, у эпоху інфляцыі, у эпоху окупацыі Рура саюзьнікамі, у фашыстаўскую організацыю ўліваецца частка дробнае буржуазіі, якая незадаволена і буйным капіталам і соцыял-дэмократыяй. Інфляцыя моцна б'е па дробным буржуа, рэпарацыі саюзьнікам моцна ўдараюць яго па кішэні. І ў той час, калі часткова па тых-жа прычынах (плюс эксплеатацыя, голад, беспрацоўе) рабочая кляса лявее, калі яна ў сваіх нетрах бярэцца за організацыю компартыі—дробная буржуазія (ці, лепш кажучы, значная частка яе) кідаецца ў абдымкі фашызму, пры дапамозе якога яна спадзяецца аднавіць даўнейшую нямецкую незалежнасьць, вызваліцца ад рэпарацыйных плацяжоў, спыніць шалёнае падзеньне маркі.

Стабілізацыя капіталізму, ачышчэньне Рура і стабілізацыя нямецкае валюты зноў заспакойваюць дробную буржуазію Нямеччыны, адштурхваюць яе ад фашызму. Але затое за гэты пэрыод часу фашызм організацыйна афармляецца, выпрацоўвае сабе сякую-такую (праўда, вельмі туманную) програму, замацоўвае свае сувязі з буйным трэставаным капіталам. Буйны капітал, магнаты нямецкае цяжкае індустрыі (Стынэс, Круп, Тыссэн і інш.) песьцяць у сябе на грудзях фашызм. Стоячы як-бы ў баку, з політычных меркаваньняў, яны харчуюць яго матэрыяльна і ідэёва, яны ўзброіваюць яго для будучае барацьбы. З кім? У першую чаргу з рабочаю клясаю, што ўсё больш лявее, з комуністымі.

Цікава праглядзець рост колькасьці галасоў, сабраных нацыянал соцыялістымі пры выбарах у рэйхстаг. У 1924 годзе (іхнае першае выступленьне як незалежнае політычнае партыі) яны зьбіраюць 1.918.000 галасоў (час, калі частка дробнае буржуазіі пайшла за фашыстымі). У 1924-жа годзе 7 сьнежня яны зьбіраюць ужо крыху меней (пачатак стабілізацыі капіталізму) —907.000 галасоў, і ў 1928 годзе колькасьць галасоў, паданых за нацыянал-соцыялістых, зьніжаецца да 810.000.

У цяперашні час, дзякуючы экономічнаму крызісу, што лютуе ў Эўропе ды ў Амэрыцы, дзякуючы цяжару пляну Юнга і шэрагу іншых як экономічных, так і політычных прычын, уплыў нацыянал-соцыялістых (фашыстых) сяр-д дробнае буржуазіі, а часткова нават і сярод маласьвядомых рабочых мас, зноў узрастае... Але пра гэта пасьля — аналізуючы выбары ў рэйхстаг ужо ў 1930 годзе.

III

У кароткім артыкуле нельга падрабязна спыніцца на становішчы (экономічным і політычным) нямецкае рабочае клясы. У гэтым пытаньні мы абмяжуемся толькі двума характарнымі

---

[1]) Параграф 48 нямецкае констытуцыі дае права прэзыдэнту рэспублікі выдаваць законы нават бяз згоды буржуазнага парляманту.

# ДРЭЗДЭНСКАЕ МАЛАДОЕ ПАКАЛЕНЬНЕ МАСТАКОЎ

**Нарыс Р. КАЛЬТОФЭН.**

Узрушэньн', прагудзеўшыя над Нямеччынай і Эўропай, не прамільгнулі бясьсьледна і для Дрэздэнскага падрастаючага пакаленьня мастакоў.

Усьпенены дух дадаізму знайшоў сабе тут прыхільнікаў, як і плынь „новай об'ектыўнасьці", якая ў Дрэздэне знайшла свой мацнейшы пункт апоры, і, як сьцьвярджаюць проф. Дыкс і А. нават мела адсюль сваё выйсьце. З гэтага апошняга кірунку знайшлі найчысьцейшыя і—не выпадкова—най каштоўнейшыя сілы дарогу да соцыялізму.

Доўгі час на гэтых маладых мастакоў у Дрэздэне, які, як старая сталіца, хварэе на найгоршы консэрватызм, ніхто не



**Гвідо Гэбэрт. Галава жанчыны.**

зварочваў увагі. Іх моцнадзейны мэцэнат д-р П. Ф. Шмідт, дырэктар мясцовага гарадзкога музэю, хутка змарыўся варожымі адносінамі да яго, кінуў сваю пасаду і выехаў з Дрэздэну. Мастакі, каб здабыць сабе вядомасьць, прынялі ўдзел у выстаўках Сэцэсіёну і іншых аб'яднаньняў. Гандаль іх творамі, які, апроч зьнешняга прызнаньня, даў-бы магчымасьць забясьпечыцца і з фінансавага боку, быў адхілены. Толькі ў апошні час гандляр карцінамі І. Зандэль паставіў сабе за мэту дапамагчы гэтаму маладому пакаленьню. Ён організуе рознастайныя выстаўкі галярэі „Малады мастак" (амаль аднaчасна з выстаўкай „Малады Дрэздэнец").

Рудольф Гопта, адвечна непакойлівы дух, прывозіць акварэлі з сваёй апошняй вандроўкі па Гішпаніі. Упэўнена перадае ён шэра-аднатонны ляндшафт вострава Малёрка, дзе ў знойнапалячым сонцы мадзеюць мізэрныя камянёвыя хаткі. На вялікі жаль, Гопта забывае паказаць нам пакутнае жыцьцё тамтэйшага насельніцтва.

А. Нэрославу, рускі, які на працягу дзесяцігодзьдзяў жыў у Дрэздэне, дае ўсё зноў і зноў мэлянхолічныя карціны сьцюдзёных агульнажыцьцяў-казарм, паміж ліпеючых двароў і месц пабудовы. Шляху, па якім можна дасягнуць актыўных соцыял-змагальных настрояў, Нэрославу не знайшоў і на сёньня ён толькі інстынктыўна адчувае бязрадаснасьць рабочага жыцьця, якое павінна быць сярод гэтых абставін.

У сваім стылі застаецца цалкам ня высьветленым Фр. Трогера. З аднаго боку, амаль плякатападобна-мізэрны ў сваіх эскізах



**Бэргер-Бергнэр. Хлопчык**

паліцыі і г. д., з другога боку, романтычна-сантымэнтальны як портрэтысты і мастак-маляр ляндшафтаў.

Морыц Гросман радуе вока сваімі гармонічнымі спалучэньнямі фарб у карцінах, якія шмат чым нагадваюць французаў. Толькі Гросман павінен абіраць сабе об'екты з шэрагаў пролетарыяту, бо інакш ён застанецца для нас бескаштоўным. У гэтым ён мог-бы павучыцца ў м. Розэнгаўэра, які дае ў сваіх малюнках моцныя істоты з шырокіх мас.

Фрыц Скадэ, які раней здавалася, цягнуўся да рэволюцый-



**Р. Гопта. Ляндшафт на Малёрцы.**

ных мас, нешта спыніўся. Пры яго таленце трэба спадзявацца што гэта толькі адпачынак, каб папрактыкавацца ў тэхнічных магчымасьцях і нічога нявыказваючых накідах. Ён павінен сур'ёзна паразважаць над тым, што сёньня імпульс да работы можа нарадзіцца толькі ў шырокіх струменях рэволюцыйных мас.

Ашаломліваюць магчымасьці, якія, здаецца, захаваны ў Г. Гэ-



Гёрц. Фабрыка.



Ганс Грундыг. Пакой.

Нямеччыне ўплывае на яго апошнія накіды: рацыяналізаваная вытворчасьць і паліцыя аднолькава б'юць і разганяюць дэманстрацыі.

Отто Габрыель, у якога раш..чы пераломам зрабіла сусьветная вайна, сваімі акварэлямі абмалёўвае ўсю скоцкасьць вайны, паказваючы яе нічым неахутанай і голай; у апошні час ён захапляецца політычным жыцьцём. Карціна „Кабарэ Эўропа", і нядаўна куплены Савецкім Саюзам твор „Інтэрнацыянал", доказы гэтага.

Творчасьць гэтых трох мастакоў найлепшая ілюстрацыя таго, што справа ідзе аб зьмесьце, а не аб форме. У сёнешнюю эпоху даць зьмест можа толькі рабочая кляса, якая крочыць да свайго вызваленьня.

Той, хто ня ўльлецца ў шэрагі змаганьня чалавецтва ад усяго нявольніцтва, той ня можа дасягнуць і мастацкіх посьпехаў.

І Гегель у сваёй эстэтыцы кажа аб гэтай прычыне: „...там дзе справа пачынае гаварыць... і дзе зьнікаюць формальнасьці і другараднасьці, дзе вялікія пакутваньні і рухі робяцца глыбокай справай,—справа ідзе больш не аб тонкіх розьніцах густаў і іх дробязных шуканьнях з паасобнымі; ён (так званы *добры* густ!) адчувае гені ўходзячым праз такі грунт і перад магутнасьцю гэткага адступаючы, адчувае нешта не па сабе"...

**Пераклаў А. Б.**

бэрце. Яго карціны—заўсёды выразныя тыпы з народу, тэхнічна і псыхолёгічна добра апрацаваныя.

Пад лепшым узьдзеяньнем імпрэсіонізму Фр. Франк, які ідэолёгічна цалкам знаходзіцца на баку рэволюцыйнага пролетарыяту. Я нядаўна бачыў яго літографіі да „Комуністычнага маніфэсту", якія, ня гледзячы на шмат якія недахопы, востра ўяўляюць паасобныя разьдзелы маніфэсту. Больш моцнае ўціскаяньне ў фронт змагальнай рабочай клясы дапаможа ўнікнуць ад прабелаў і слабасьцяй.

Як скульптар увасабляе малады Дрэздэн Гэрман Рыхтэр сваімі востра высечанымі галовамі.

Нарэшце, паказаньне на трох мастакоў, якія цалкам далучыліся да пролетарскага фронту і разам з ім работаюць у галіне пропаганды, гэта—Леа Лянгер, Ганс Грундзіч і Отто Габрыель.

Леа Лянгер прысьвяціла сваю любоў ма занядбалых пролетарскіх дзяцей, жыцьцё якіх цячэ так бязрадасна. Яе эалюнкі заўсёды новыя,—цяжкія скаргі упроць гэтае грамады, дзе існуе такая пакутная мізэрнасьць.

Ганс Грундзіч зьменьвае зараз свае доцна сантымэнтальныя задаткі і зьвяртае свае ўзрокі на вытворчасьць. Жыцьцё рабочых і рабочае клясы ў



Ганс Грундыг. Індустрыя.

# ПА ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ



Кастрычніцкая рэволюцыя ня толькі вызваліла працу рабочых, але дала ім багатыя мажлівасьці выкарыстаць свае веды і практыку для ўдасканаленьня соцыялістычных прадпрыемстваў.

На здымку: т. Казлоўскі—вынаходца бульба-капалкі.



Заканчваецца будаўніцтва унівэрсытэцкага гарадка. Савецкая Беларусь узбагацілася буйным культурным асяродкам.

На здымку: Корпусы унівэрсытэцкага гарадка.



Сартаваньне насеньня ў колгасе імя Сьвярдлова на Жлобіншчыне.



Хаты-чытальні зьяўляюцца апорнымі пунктамі політыка-асьветнай работы ў весцы. Лепшая кулацкія хаты аддадзены пад хаты-чытальні.

На здымку: Колгасьнікі абсталёўваюць хату-чытальню.



Курсанты АБВШ вучаць сваіх падшэфнікаў вайсковай справе.

# За два тыдні



Паліцыя зьбівае дэманстрантаў на вуліцах Нью-Ёрку.

**За СССР".**

Па ўсіх гарадох Злучаных Штатаў пранеслася хваля рабочых дэманстрацый, як протэст супроць беспрацоўя, супроць узрастаючай небясьпекі новай імпэрыялістычнай вайны і ў абарону СССР.

Унізе на здымку: Магутная дэманстрацыя ў Сан-Францыска пад лёзунгам: „Усе на абарону СССР".



За спробу падняць чырвоны сьцяг на дэманстрацыі беспрацоўных у Бастоне (Злуч. Штаты) паліцыя арыштавала т. Дуч. Амора.



Люты тэрор ў Кітаі.

Люты тэрор ня спыніць пераможны марш рэволюцыі ў Кітаі. Пасьля эвакуацыі Чырвонай арміі гор. Чанша гоміндануаўскія гэнералы штодзень расстрэльваюць 400—500 ні ў чым непавінных рабочых і сялян. Рэволюцыйныя хвалі, магутны рост Кітайскай Чырвонай арміі, бязупынныя перамогі рэволюцыі над здрадніцкім і мілітарыстычным гоміндаyам,—зьяўляюцца лепшым доказам таго, што Кітайская рэволюцыя жыве.

На здымку: паліцыя ў Чанша ўвозіць на кару сьмерці арыштаваных рабочых.



Паліцыя рабочага ўраду Англіі арыштоўвае параненых індыйскіх нацыялістых пасьля вулічных баёў ў Бамбэі.



Выданьне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва. Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1931 год

НА ШТОМЕСЯЧНУЮ ПОЛІТЫЧНУЮ,
ПЭДОЛЁГА-ПЭДАГОГІЧНУЮ
І ПОЛІТЫКА-АСЬВЕТНУЮ ЧАСОПІСЬ

# КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

**ЧАСОПІСЬ КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ** вядзе ваяўнічую барацьбу за комуністычнае выхаваньне працоўных мас, жыва адклікаецца на ўсе палітычныя, пэдолёга-пэдагогічныя, політасьветныя проблемы дню.

**ЧАСОПІСЬ КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ** зьявіцца лепшым памочнікам у рабоце настаўніка, політасьветніка, дашкольніцы.

**ЧАСОПІСЬ КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ** выходзіць пры ўдзеле лепшых марксыцкіх сіл як Беларусі, так і іншых Саюзных Рэспублік.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ на 1931 год

На 1 год (12 нумароў) . . . . . 8 руб. —
„ паўгода (6 нумароў) . . . . . 4 руб. 50 к.
„ 3 м-цы (3 нумары) . . . . . 2 руб. 30 к.
Кошт асобнага нумару . . . . . — 80 к.

**СКІДКА 25%** ПОДЛУГ АГАЛОШАНАЙ ЦАНЫ ДАЕЦЦА НАСТАЎНІКАМ ШКОЛ, ХАТНІКАМ і інш., ЯКІЯ ВЫПІСВАЮЦЬ ЧАСОПІСЬ ЗА СВОЙ КОШТ НА ЦЭЛЫ ГОД. РАЁННЫМ УСТАНОВАМ (РАЙІНСПЭКЦЫЯ, МЯСЦКОМ) СКІДКА 25% У ТЫМ ВЫПАДКУ, КАЛІ ЯНЫ ПАДПІШУЦЦА НЯ МЕНШ, ЯК НА 50 ЭКЗЭМПЛЯРАЎ НА ЦЭЛЫ ГОД.

## ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА РЭДАКЦЫЯЙ:

Менск, Пляц Волі, 23/2, а таксама поштай і аддзяленьнямі Бел. Дз. Выд.

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

**1931 год**

ПАДПІСНАЯ ЦАНА на

| На год | |
|---|---|
| 3 р. | — |

| На 6 м-цаў | |
|---|---|
| 1 р. | 50 к. |

| На 3 м-цы | |
|---|---|
| — | 75 к. |

ЦАНА АСОБНАГА НУМАРУ 15 к.

**24** НУМАРЫ НА ГОД

ІЛЮСТРАВАНАЯ ДВУХТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

**Адказны рэдактар М. ЧАРОТ**

Адрас рэдакцыі: Савецкая, 79.

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** высьвятляе ў мастацкім слове і багатай ілюстрацыі рост і разьвіцьцё соцыялістычнага будаўніцтва БССР і ўсяго Савецкага Саюзу, рэконструкцыю народнае гаспадаркі, посьпехі індустрыялізацыі і колектывізацыі сельскай гаспадаркі, шляхі культурнае рэволюцыі.

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** знаёміць чытача з рэволюцыйнымі падзеямі ўсяго сьвету, а таксама і з важнейшымі зьявішчамі сусьветнай экономікі і культуры

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** зьмяшчае: апавяданьні, вершы, нарысы, падарожжы, фэльетоны, артыкулы з палітычнага, экономічнага, культурнага і мастацкага жыцьця, мастацкія навінкі, ілюстрацыі, рэпродукцыі карцін выдатнейшых мастакоў, а таксама гумарэскі, пародыі, старонкі сатыры і гумару з адпаведнымі шаржамі і карыкатурамі.

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** адлюстроўвае ўсё бягучае жыцьцё мастацтва як савецкага, так і сусьветнага, найбольш буйныя зьявішчы літаратуры, тэатру і кіно.

Часопіс „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ прадаецца ўва ўсіх кнігарнях Беларускага Дзяржаўнага Выд-ва, ЦРК, кіёсках контрагенцтва друку і выд. „Праўда“, чыгуначных і паштовых кіёсках, газэтаносцаў ува ўсіх гарадох і мястэчках БССР.

**ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:** Бюро падпіскі БДВ (Менск, Ленінская, 19), Цэнтральная кнігарня БДВ, усе акруговыя аддзяленьні БДВ, кнігарні ЦРК, кіёскі контрагенцтва друку, Беларускае газэтнае бюро, усе паштовыя аддзяленьні, усе лістаносцы як у гарадох, так і ў вёсках, і асобы, якія маюць пасьведчаньні.

Менск, друк. імя тав. Сталіна. зак. № 1338. Галоўлітбел № 1031.